# Тыднёвік Магілёўскі




№ 12 (53) 25 сакавіка 1999 г. Кошт свабодны


ТЭМА НУМАРУ

## Дзень Волі




ТЫДНЁВІК распачаў трэці год свайго існаваньня. Гэтая дата прыпадае на 25 сакавіка – чарговыя ўгодкі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі. Нам такое супадзеньне да спадобы.

Віншуем чытачоў, сяброў і паплечнікаў са Сьвятам і жадаем усім беларусам спраўдзіць свае надзеі на годнае й свабоднае жыцьцё. Напярэдадні сьвята ў незалежнай прэсе зьявіўся ЗВАРОТ старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы (Канада) з нагоды 81-х угодкаў абвешчаньня нашай дзяржаўнай незалежнасьці. Рэдакцыя «ТМ» падае вытрымку з гэтага пасланьня.

***– Дарагія суродзічы, прашу і заклікаю вас, не дапусьцеце да ліквідацыі нашай дзяржавы! Ад вас залежыць будучыня вашых дзетак, вашых унукаў. Не пакіньце ім у спадчыну забраны, паняволены край замест вольнай, заможнай і гордай Бацькаўшчыны. Толькі вы можаце не дапусьціць яе загібелі. Разам мы яе адбудуем, вылячым ад ейных боляў і ўзьнясем на сьветлы пасад.***

***Жыве Беларусь!***

Напярэдадні Дня Волі «ТМ» прапанаваў знаёмым магілёўцам адказаць на пытаньне: «Што для вас сёньня Беларуская Народная Рэспубліка?». Іхныя меркаваньні мы падаем у рубрыцы ***«Тэма нумару»***.



***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***, ***старшыня магілёўскае філіі Беларускае сацыял-дэмакратычнае партыі «Народная Грамада»:***

*– БНР для мяне і, спадзяюся, для ўсіх нас ня проста гістарычная дата. Гэта ёсьць сымбалем, на жаль, няўдалае спробы пабудовы Беларускай незалежнасьці на пачатку XX стагодзьдзя. Але тым ня менш, каб не было БНР, не была б утвораная й хай сабе марыянэткавая, але БССР. Без БНР Беларусь была б зьнішчаная камуністамі й пераўтвораная ў правінцыю Расейскай імпэрыі. Беларуская Народная Рэспубліка – гэта сьведчаньне сілы й мужнасьці нашых продкаў, спадкаемцамі якіх мусім стаць мы.*

## Беларусь на крыжовай дарозе

**У часе панаваньня савецкае імпэрыі бальшыня герaічных іменаў беларускае гісторыі XX ст. апантанымі камуністычнымі ідэолягамі адмыслова хавалася ці ў сакрэтных архівах ці наогул зьнішчалася. Паасобныя ўзгаданкі рабіліся выключна для таго, каб у чарговы раз «заклеймить позором прадажных беларускіх нацыяналістаў». Але палітычная адліга пачатку 90-х вярнула нам забароненыя імёны, адтуліла ўзьнёслыя й трагічныя факты нашае сапраўднае гісторыі. Сёньня, у дзень чарговых угодкаў абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі, якая для пакаленьняў беларускіх адраджэнцаў гэтага стагодзьдзя ёсьць сымбалем нашае незалежнасьці, я хацеў бы ўзгадаць чалавека, што ня быў непасрэдным удзельнікам тых далёкіх падзеяў, але ўнёс сваю долю ў асьвятленьне гістарычнае праўды.**

Многія называюць Аўгена Калубовіча беларускім Салжаніцыным, з-за ягонай аповесьці «На крыжовай дарозе», па якой, як сьцьвярджае аўтар, у сталінскія часы гналі ўсю Беларусь. «І жаўнеры завялі Яго на панадворак, званы Прэторыя, і склікалі ўвесь полк і білі Яго па галаве трысьцінай, і плявалі на Яго... І, калі насьмяяліся... павялі Яго, каб укрыжаваць... на... Галгофу, што значыць: лобнае месца». (Эвангельле Сьв.Марка. XV:16,19-20,22).

Аўген Калубовіч нарадзіўся ў мястэчку Цёхічы на Рагачоўшчыне 5 сакавіка 1910 году, дзе й скончыў пачатковую школу. Потым навучаўся ў Рэчыцкай сямігодцы, а пасьля – у Бабчынскім пэдагагічным тэхнікуме Хойнікаўскага раёну. Менавіта там Аўген Калубовіч уступіў у тайную арганізацыю альтруістаў, якая прапагандавала ідэю незалежнасьці Беларусі. 20 траўня 1930 году Калубовіч быў арыштаваны ГПУ й за прыналежнасьць да «беларускае антысавецкае нацыяналістычнае арганізацыі Альтруістаў, якая ставіла сабе на мэце падрыхтоўку контррэвалюцыйнага паўстаньня для зрынаньня савецкае ўлады ды адасабленьня Савецкае Беларусі ад СССР» быў асуджаны на тры гады лягэроў. Менавіта жудасьці сталінскіх рэпрэсіяў ды асабістае знаходжаньне ў лягэры сталіся матэрыялам для кнігі «На крыжовай дарозе», якая ёсьць аўтабіяграфічнай.

«Дарога гэтая йшла да самае Сібіры. У 1930 г. здавалася, што па ёй гналі ўсю Беларусь, каб там, на той Сібірскай галгофе, зь ёю й пакончыць. Гналі ня рымскія жаўнеры зь дзідамі й мячамі, а маскоўскія са стрэльбамі й сабакамі. Гналі й гналі... Удзень і ўначы. У сьцюжу і ў сьлёту. Праз перасыльныя пункты й турмы. З кожнага сяла й места», – так пачынае аўтар сваю аповесьць.

Пасьля вяртаньня зь лягэру на Далёкім Усходзе Аўген Калубовіч працаваў настаўнікам, вучыўся ў Менскім пэдагагічным інстытуце, а з 1939 году займаў пасаду кансультанта-мэтадыста ў Народным Камісарыяце Асьветы БССР. У часе Другое Сусьветнае вайны вызваляў Беларускае культурнае згуртаваньне, быў сябрам Беларускае Рады Даверу й Беларускае Цэнтральнае Рады. Потым, перад паўторным прыходам камуністаў да ўлады ў Краі, Аўген Калубовіч эміграваў у ЗША, пакінуўшы на Радзіме жонку й сына, якога ніколі ў жыцьці больш не пабачыў. Дарэчы, Калубовіч-малодшы жыве ў Менску й зьяўляецца актывістам Таварыства Беларускае мовы.

Аўген Калубовіч пачаў пісаць яшчэ да вайны, але сапраўдным літаратарам і дасьледчыкам беларускай гісторыі стаўся на эміграцыі. «Я ўсё жыцьцё адчуваў, што ня споўніў аднога свайго абавязку: распавесьці пра масавую гібель беларусаў у савецкіх турмах і канцэнтрацыйных лягэрох. Колькі разоў браўся за пяро яшчэ дома, у Менску. Укладаў пляны, рабіў чарнавыя накіды. Ды далей гэтага не пайшоў. Мо ня толькі таму, што пісаць было сьмяротна небясьпечна, хаваючыся, а перахоўваць напісанае цяжка. Галоўна – ад сьведамасьці, што друкаваць усё адно няма дзе», – так напіша Аўген Калубовіч у 1976 годзе ў прадмове да кнігі «На крыжовай дарозе», выдадзенай у амэрыканскім горадзе Клііўлендзе й перавыдадзенай у Менску ў 1994 годзе. У гэтую кнігу ўвайшоў і гістарычна-дасьледчы твор «Акт 25-га Сакавіка і адраджэньне нацыянальнае беларускае культуры», дзе аўтар на гістарычных дакумэнтах распавядае пра ўздым нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў у часе існаваньня БНР.

*Працяг на 7 стар.*

ТЭМА НУМАРУ

## ПРЭЗЫДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ. ПРАЦЯГ.

# Мясцовая ўправа БНФ зноў сталася аб'ектам міліцэйскага захопу

***«ТМ» паведамляў пра папярэдні міліцэйскі налёт на офіс абласной філіі БНФ, набыткам якога для чыноў міліцыі сталіся некалькі старых улётак.***

Гэтым разам, у чацьвер 18 сакавіка, былі рэквізаваныя афармленыя й чыстыя падпісныя лісты для збору подпісаў за вылучэньне кандыдатаў у прэзыдэнты, пратаколы абласной камісіі па выбарах прэзыдэнта, агітацыйныя плякаты і ўлёткі да гэтых выбараў, іншая літаратура. Рэквізаваныя матэрыялы міліцыянты вынеслі ў картоннай скрыні з-пад бананаў. Туды-ж паклалі й зьняты з фронтаўскага кампутара вінчэсьцер (цяпер ён бясшкодны як дзіцячая мяккая цацка).

Пра чарговы налёт на офіс па тэлефоне ў Праваабарончы цэнтар паведаміў сябра Фронту Віталь Макаранка. Ён кіраваўся на сход і апынуўся сьведкаю блякаваньня офісу. Мы зь сябрам Цэнтру Алесем Асіпцовым пасьпяшаліся на выклік, але ў памяшканьне нас не прапусьцілі. Два спэцназаўцы пачыталі маё пасьведчаньне ад Беларускага Хельсінскага Камітэта, але яно ні ў чым іх не пераканала: «заходить нельзя!»

Стоячы на вуліцы мы распытвалі Віталя Макаранку. Міліцыянты і людзі ў цывільным прыбылі на мікрааўтобусе зь цёмным шклом (ён стаяў блізу офісу). Адзін меў пры сябе відэакамэру. Кіравала брыгадай цывільная жанчына.

Тым часам мы працягвалі чакаць «пад дзьвярыма». Праз паўгадзіны выйшаў старшыня магілёўскага Маладога Фронту Андрусь Кавалёў у суправаджэньні двох цывільных. Мы рушылі побач, каб высьветліць падставы затрыманьня, бо было відавочна, што Андруся ахоўваюць. Ён паведаміў, што выйшаў набыць у краме вады. Адзін з ахоўнікаў рэзка загадаў яму «не разгаварывать». Але-ж дыялёг між ахоўнікамі і намі адбыўся й мы высьветлілі, што Андруся нельга лічыць затрыманым ці арыштаваным. Ён дадаў, што зайшоў у офіс, калі там ужо была гэтая апэратыўная брыгада. Хацеў сысьці, але ня выпусьцілі. Перад крамай адзін канваір застаўся з намі, а другі накіраваўся з Андрусём да прылаўка.

Мы вярнуліся да офісу й знсўку сталі чакаць разьвіцьця падзеі. Чаканьне доўжылася каля гадзіны. Потым выйшаў старшыня абласной камісіі па выбарах прэзыдэнта Уладзімер Шарапаў і запрасіў мяне й Віталя Макаранку ў памяшканьне. Ён паведаміў, што абумовіў сваё падпісаньне міліцэйскіх папераў прысутнасьцю праваабаронцаў.

Мы прайшлі ў памяшканьне. У.Шарапаў распавёў пра дзеяньні міліцыі. На некалькі пытаньняў адказала нам і «цывільная жанчына» – Караткевіч Натальля Леанідаўна, якая аказалася маёрам, сьледчым Цэнтральнага РАЎСа.

Карціна пачала набываць наступныя рысы. У сталіцы ўзбуджаная «выбарчая» крымінальная справа. Маёр Караткевіч атрымала даручэньне ў межах гэтага «опасного дела». Загад прывёў спэцбрыгаду ў офіс мясцовай філіі БНФ, які аднначасова прыкмечаны як перадвыбарчы штаб. Санкцыянаваў дзеяньні брыгады пракурор Цэнтральнага раёна.

Акрамяператрусу праводзіліся відэаздымкі. Апэратар здымаў усё, што знаходзілася ў пакоях офісу: сьцены, паліцы зь літаратурай, дакумэнтамі, паперамі. Асобна і старанна – усіх, хто знаходзіўся ў памяшканьні. Напрыканцыператрусу міліцыянты намерваліся забраць з сабой сэйфы, да якіх у офісе не знайшлося ключоў. Але перадумалі й абмежаваліся іх «апячатаньнем».

Брыгада выканала сваю справу й пакінула месца падзей з «трафэямі», а У.Шарапаў атрымаў копію пратаколу і абяцаньне атрымаць усё назад у выпадку адсутнасьці крыміналу ў арыштаваных дакумэнтах.

***Якія высновы можна зрабіць з нагоды чарговагаператрусу ў офісе БНФ? Шукальнікаў цікавіла ўсё, што датычыцца працы абласной камісіі па выбарах прэзыдэнта. Асаблівую каштоўнасьць для іх уяўлялі падпісныя лісты за вылучэньне кандыдытаў. Добра, што там іх было ня шмат, аднак усё роўна шкада працы зборшчыкаў, тым больш, што некаторыя зь іх пацярпелі праз гэта.***

***Праваабарончы цэнтар вядзе свой улік пацярпелых за Канстытуцыйнае права выбіраць прэзыдэнта. Рэжым-жа спрабуе спаралізаваць працу выбарчых камісіяў. Сьведчаньнем таму ператрусы, што ладзяцца па абласных цэнтрах, уціск на сяbраў выбарчых камісіяў, якім пагражаюць выключэньнямі з вучэльняў альбо звальненьнямі з працы, адміністратыўнай і нават крымінальнай адказнасьцю. Калі не хапае начальнікам собскага «аўтарытэту», на дапамогу клічуць людзей з установы, якую з савецкіх часоў трапна называюць «канторай».***

***Усё гэта робіцца ад страху. І адначасова ад спадзеву на тое, што «мы не пры чым, нам далі такі загад»... Але перад гісторыяй, і нярэдка ў рэальным жыцьці, кожны адказвае, як гаворыцца, за сваё ўласнае.***

***Валадар ЦУРПАНАЎ, праваабаронца, карэспандэнт «ТМ»***



## ТЭМА НУМАРУ



***Валадар ЦУРПАНАЎ, старшыня магілёўскага Праваабарончага цэнтра:***

### Мая радзіма

*Дамок над рачулкай,*
*што воды нясе*
*свае да далёкага мора,*
*гаёк невялічкі ў вясновай красе*
*пагойдвае ціхенька гольлем;*
*і луг заліўны, што гаёк акружыў*
*травою духмянай ў пакосе,*
*і поле, дзе вузкую сьцежку прабіў*
*праз лес залатога калосься;*
*і песьня, што ў небе маленькі*
*жаўрук*
*пець пачынае;*
*і пчолка руплівая: лапачак-рук*
*лета усё не складае...*
*Усе тыя рысы, прыкметы жыцьця –*
*вясковай будзённасьці ціхай –*
*я згадваю ў момант,*
*нібы забыцьця,*
*ўспаміну шчымлівага. Слыху*
*істоту усю падпарадкую я,*
*ды марна чакаю прыходу*
*ў кватэру – дзяцінства,*
*каб маці мая*
*мне зноў наліла сырадою.*
*Шкада, бо ня вернуцца тыя назад*
*часы безклапотнага шчасьця*
*калі па-дзіцячы наіўна быў рад*
*злоўленай простай казяўцы.*
*Насоўвае ноч на абшары крысо*
*коўдры бліскучастае, зорнай...*
*Я засынаю ды чую, як зноў*
*сьпіць доня мая неспакойна.*



***Міхась БУЛАВАЦКІ, старшыня абласной філіі ТБМ:***

*– Перш за ўсё і больш за ўсё –* ***надзея****. Надзея на гонар і годнасьць беларусаў, на іх роўнасьць між іншымі народамі сьвету. Надзея на волю. Надзея на розум. Надзея на будучыню. Так, для мяне БНР – не мінулае, для мяне гэта наперадзе. Гэта як сьвятло ліхтара для матылька, што лётае ў цемры. Сёньняшняя Беларусь яшчэ вельмі далёкая ад ідэалаў дзяржаўнасьці, пазначаных Устаўнымі граматамі 1918 года. А да іх ёсьць сэнс імкнуцца. Таму я прыняў грамадзянства БНР.*

## РОЗГАЛАС РЭКТАРСКАГА ПАПЯРЭДЖАНЬНЯ

# Згодна артыкула 39...

Афіцыйнае папярэджаньне ад абласной пракуратуры атрымаў старшыня магілёўскай філіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», журналіст Алесь Сердзюкоў. Днямі ён быў выкліканы да сьледчага, які ўручыў яму ксэракопію дакумэнта, падпісанага абласным пракурорам Міхаілам Дудкіным. У паперы адзначаецца, што Алесь Сердзюкоў вядзе «незаконную выбарчую дзейнасьць у Магілёўскім унівэрсітэце». Маецца на ўвазе дзейнасьць, накіраваная на арганізацыю прэзыдэнцкіх выбараў. Якім чынам гэтая «дзейнасьць» вядзецца, не расшыфроўваецца. Аднак пазначана, што на падставе артыкула 39 Закону аб пракуратуры для А.Сердзюкова можа наступіць адміністратыўная альбо нават крымінальная адказнасьць. Чаму спасылка зробленая на ўнівэрсітэт становіцца ясна, калі ўзгадаць «рэктарскае папярэджаньне» выкладчыкам і студэнтам, пра якое мы распавядалі ў мінулым нумары «ТМ». Алесь Сердзюкоў быў сярод тых мясцовых праваабаронцаў, хто ў сваю чаргу папярэдзіў рэктара Аўласевіча аб ягонай перашкодзе ў правядзеньні «законнай выбарчай кампаніі, прызначанай законным Вярхоўным Саветам Беларусі». Відаць, рэктар паскардзіўся ў пракуратуру. Яна стала на рэктарскі бок і абараніла кіраўніка ўнівэрсітэта ад надакучлівых палітыкаў, што адцягваюць увагу студэнтаў ад вучобы.

Цікава аднак, што гэтымі-ж днямі менавіта ўнівэрсітэт стаўся цэнтрам правядзеньня рэспубліканскай «патрыятычнай» канфэрэнцыі моладзі». Ад першага да апошняга слова ўсё на ёй было выключна ***палітыкай***. Але тут важна, якая гэта была палітыка, – савецкая, інтэрнацыянальная, інтэграцыйная. Гэтая палітыка вядзе адлік беларускай гісторыі ад лістапада 1917 года, старанна пазьбягаючы такіх несавецкіх падзеяў як БНР, народны супраціў бальшавізму, камуністычныя рэпрэсіі супраць беларускай інтэлігенцыі й сялянства. Ад такой палітыкі студэнтаў не ахоўваюць. Яе заахвочваюць. Яе песьцяць. Яе падтрымліваюць прызнаньнем такіх «выдатных» датаў нашай гісторыі, як, напрыклад, 15-годзьдзе магілёўскай «ганаровай варты ля мэмарыялу Барацьбітам за савецкую ўладу»...

***Уласная інфармацыя***

